# Голас Радзімы

№ 1 (1987)
1 студзеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Сёлета наша краіна адзначыць 70-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Мы, беларусы, рыхтуемся да гэтай падзеі як да найвялікшага свята. Кастрычнік даў нашаму народу сацыяльную і нацыянальную незалежнасць, адкрыў шлях да свабоднага развіцця. Таму для кожнага з нас імя Леніна — правадыра рэвалюцыі — самае дарагое і блізкае. Яно ўвекавечана ў назвах вуліц і праспектаў, заводаў і універсітэтаў, пасёлкаў і калгасаў... На плошчах гарадоў і вёсак Беларусі ўстаноўлены помнікі гэтаму вялікаму чалавеку.

**НА ЗДЫМКУ;** помнік У. І. Леніну, які нядаўна адкрыты на цэнтральнай плошчы горада Барысава.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

БССР І ААН

## НАКІРАВАНА ІНФАРМАЦЫЯ

Пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ААН Л. Максімаў накіраваў генеральнаму сакратару ААН інфармацыю аб праведзеных у Беларусі мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму году міру. Іх асноўным зместам з'яўляецца мабілізацыя намаганняў у справе барацьбы за захаванне міру, прадухіленне ядзернай вайны, стварэнне ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі.

Вельмі важна, адзначыў пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН, каб, пачынаючы з 1986 года — Года міру, кожны наступны станавіўся вяхой на шляху да поўнай ліквідацыі пагрозы ядзернай вайны.

УРАЧЫСТЫЯ СХОДЫ

## СВЯТА КУБІНСКАГА НАРОДА

У Мінску адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных горада, прысвечаны 28-й гадавіне перамогі кубінскай рэвалюцыі.

З дакладам выступіў намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-кубінскай дружбы, загадчык кафедры Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Горкага А. Цернавой.

Словы падзякі савецкім людзям за бескарыслівую дапамогу, сяброўскія пачуцці і ўсебаковае супрацоўніцтва з кубінскім народам выказала старшыня зямляцтва кубінскіх аспірантаў, якія вучацца ў Мінску, Э. Пас.

Удзельнікі сходу прынялі тэкст прывітальнай тэлеграмы ў адрас Асацыяцыі кубіна-савецкай дружбы і яе філіяла ў правінцыі Камагуэй.

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З МАНГОЛІІ

У Мінску пабывала дэлегацыя Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі на чале з сакратаром ЦК МНРП П. Дамдзінам.

Члены дэлегацыі мелі сустрэчы з партыйнымі і дзяржаўнымі кіраўнікамі рэспублікі, пабывалі ў некаторых установах і арганізацыях Мінска. У Дзяржбудзе БССР госці былі азнаёмлены з праграмай будаўніцтва аб'ектаў у горадзе і ў вёсцы, ажыццяўляемымі мерамі па паскарэнню тэмпаў і павышэнню якасці будаўніцтва на аснове шырокага выкарыстання дасягненняў навукі і тэхнікі, перадавых метадаў працы, з планамі развіцця вытворчай базы галіны.

Дэлегацыя МНРП пабывала на Дзяржынскім эксперыментальна-механічным заводзе, азнаёмілася з забудовай пасёлка Жамчужны Баранавіцкага раёна.

Гасцям была прапанавана таксама шырокая культурная праграма.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## ДРУЖБА — ЗАЛОГ МІРУ

У Мінску адбылася V справаздачна-выбарная канферэнцыя Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, якая абмеркавала вынікі работы за 1981—1986 гады і задачы на наступны перыяд.

У дакладзе і выступленнях дэлегатаў адзначалася, што Беларускае таварыства дружбы падтрымлівае трывалыя кантакты з грамадскасцю многіх краін, актыўна ўдзельнічае ў руху за дружбу і супрацоўніцтва паміж народамі ў інтарэсах умацавання міру, узаемаразумення і даверу. Гэтай справе паслужылі і Дні Савецкага Саюза з удзелам Беларусі, якія прайшлі ў ПНР, Францыі, Грэцыі, Італіі, Канадзе, Японіі, Аўстрыі, Нідэрландах, Мексіцы, Заходнім Берліне, Алжыры, Сірыі, Афганістане, на Мадагаскары і Маўрыкіі. У бліжэйшыя пяць гадоў Беларускаму таварыству дружбы трэба будзе прадстаўляць Савецкую Беларусь на Днях Савецкага Саюза ў ГДР, Індыі, Ісландыі, Іспаніі, Нарвегіі, Эфіопіі, ФРГ і іншых краінах. Неабходна, падкрэслівалі дэлегаты, каб такія мерапрыемствы мелі больш разнастайны характар і шырокі размах.

Канферэнцыя выбрала новы састаў праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Старшынёй прэзідыума праўлення абраны Арсен Ваніцкі.

ПЛЕНУМЫ

## АБМЕРКАВАНЫ НОВЫЯ ЗАДАЧЫ

Вынікам работы прыхільнікаў міру ў 1986 годзе, аб'яўленым ААН Міжнародным годам міру, і задачам у далейшай барацьбе за ліквідацыю пагрозы тэрмаядзернай катастрофы быў прысвечаны аб'яднаны пленум Беларускага камітэта абароны міру і рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду міру, які адбыўся ў Мінску.

Аб масавых антываенных выступленнях працоўных Беларусі, росце добраахвотных узносаў у Савецкі фонд міру гаварылі дакладчык — намеснік старшыні прэзідыума Беларускага камітэта абароны міру, прафесар Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута А. Ключароў, старшыня Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру народны мастак СССР, Герой Сацыялістычнай Працы З. Азгур, прарэктар Беларускага політэхнічнага інстытута А. Грэбнеў і іншыя.

КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

## «ЛІДЧАНКА» Ў БЕЛАСТОКУ

З паездкі ў Польшчу вярнуўся народны ансамбль песні і танца «Лідчанка». Самадзейныя артысты Лідскага гарадскога Дома культуры выступілі з канцэртамі перад жыхарамі Беластока, Бяла-Падляскі і Хайнувкі.

Цесныя сувязі ў адпаведнасці з праграмай культурнага абмену паміж працоўнымі Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства ПНР падтрымліваюць многія іншыя мастацкія калектывы. У брацкую краіну неаднаразова выязджалі народныя ансамблі «Нёман», «Свіцязь», «Раніца». У сваю чаргу, гродзенцы не раз апладзіравалі майстэрству артыстаў ансамбля песні і танца «Курпе зелёнэ», Беластоцкай філармоніі, іншых польскіх калектываў.

ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ

## БАРАНАВІЧЫ — ХЕЙНАЛА

Беларускі горад Баранавічы і фінскі Хейнала ўжо амаль на працягу дзесяці гадоў падтрымліваюць паміж сабой сяброўскія кантакты. Гарады-пабрацімы пастаянна абменьваюцца афіцыйнымі дэлегацыямі.

Група прадстаўнікоў грамадскасці Баранавіч нядаўна зноў наведала сваіх фінскіх сяброў. У час візіту была падпісана сумесная «Заява аб падтрымцы мірных ініцыятыў Савецкага Саюза».

ДЛЯ ПАКУПНІКОЎ СТАЛІЦЫ

## ЗАПРАШАЕ «ПАЛЕССЕ»

«Палессе» — так называецца новы магазін, які адкрыўся ў Маскве на Фестывальнай вуліцы. Сушаныя грыбы, свежыя і мачоныя антонаўкі, журавіны, брусніцы, розныя саленні, варэнні і інш. прысмакі дастаўляюць сюды з Беларусі. І хоць магазін «Палессе» пакуль яшчэ навасёл на Фестывальнай, папулярнасць яго ўжо выйшла за межы Ленінградскага раёна. Штодзённа сюды з намерам набыць дарункі беларускіх лясоў і садоў, розную сельскагаспадарчую прадукцыю прыязджаюць людзі з усіх канцоў сталіцы.

СЕРВІС

## ВУЛІЦА БЫТАВЫХ ПАСЛУГ

Невялікія майстэрні, атэлье, іншыя міні-прадпрыемствы бытавога абслугоўвання адкрыліся ў новым мікраараёна горада Мінска «Вяснянка». Як у старадаўніх «гарадах майстроў», архітэктары размясцілі іх на адной вуліцы, ажывіўшы тым самым сучасную забудову. Разам з узвядзеннем дамоў быту ў рэспубліцы плануецца ва ўсіх буйных гарадах ствараць у найбольш ажыўленых месцах «вуліцы бытавых паслуг». Іх фарміраванне завяршаецца цяпер у Брэсце і Бабруйску.

НА МЯЖЫ РЭСПУБЛІК

## 200-КІЛАМЕТРОВАЕ ВАДАСХОВІШЧА

У Віцебскай вобласці, на мяжы Беларусі і Латвіі, будзе пабудавана 200-кіламетровае вадасховішча для Даўгаўпілскай гідраэлектрастанцыі.

Даўгаўпілская ГЭС — буйная будоўля дванаццатай пяцігодкі. Увод яе ў эксплуатацыю намечаны на 1990 год. Электраэнергія новай станцыі паступіць у Паўночна-Заходнюю энергетычную сістэму краіны, у якую ўваходзіць і наша рэспубліка. Палепшыцца забеспячэнне прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, многіх населеных пунктаў паўночнай часткі Віцебскай вобласці.

Важнае эканамічнае і гаспадарчае значэнне будзе мець і вадасховішча, асноўная частка якога размесціцца на тэрыторыі вобласці. Акрамя паляпшэння арашэння і водазабеспячэння прыбярэжных населеных пунктаў, яно стане важнай суднаходнай артэрыяй. Вялікія перспектывы адкрые вадасховішча і для развіцця рыбаводства.

ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА

## МІКРАРАЁН БУЛЬВАРАЎ

Каля ста вялікіх і малых мікраараёнаў налічваецца ў Мінску. Нядаўна пачалося ўзвядзенне яшчэ аднаго — «Кунцаўшчына-1», які размесціцца на заходняй ускраіне беларускай сталіцы. Будуць пабудаваны таксама «Кунцаўшчына-2» і «Кунцаўшчына-3».

Галоўная асаблівасць новага раёна — адсутнасць дарог, якія звычайна падзяляюць забудову. Праграсіўнае праектнае рашэнне дазволіла замяніць іх пешаходнымі бульварамі. Сам жа раён настолькі кампактны, што да любога прыпынку грамадскага транспарту — лічаныя мінуты хады.

Бульвары прлягаюць па самых зацішных месцах і звязваюць кожны з трох мікраараёнаў з раённым паркам. У зялёную зону, бліжэй да бульвараў, вынесены і дзіцячыя сады. Тэрыторыя ля дамоў і дашкольных устаноў будзе зусім бяспечная для гульняў. Дазвол на заезд у межы раёна атрымаюць толькі машыны, якія будуць абслугоўваць гандлёвыя кропкі і пошту. Для ўласных аўтамабіляў плануецца набудаваць гаражы.

Архітэктары ўмела выкарысталі і асаблівасці рэльефу. На самым высокім узгорку ў мікраараёне «Кунцаўшчына-2» з'явіцца група 16-павярховых жылых будынкаў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ШЧУЧЫН. У новым Доме культуры справілі наваго́дні вечар работнікі эксперыментальнай базы «Шчучын». Ён пабудаваны на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі.

СМАРГОНЬ. У вёсцы Солы адкрыўся камфартабельны кінатэатр, які атрымаў назву «Мір». Тут зала на 260 месцаў, прасторнае фае.

МАЛАДЗЕЧНА. Работнікам калгаса імя Калініна цяпер не трэба ехаць у раённы цэнтр, каб атрымаць стацыянарнае лячэнне. У гаспадарцы пабудавана свая бальніца, кабінеты і лабараторыі якой аснашчаны сучасным медыцынскім абсталяваннем.

КАПЫЛЬ. Новым цэнтрам эстэтычнага выхавання стаў музей, які адкрыўся пры гарадской музычнай школе. Сабраныя энтузіястамі беларускага фальклору старадаўнія музычныя інструменты, вырабы нацыянальнага ткацтва і вышыўкі, творы жывапісу, шматлікія дакументы расказваюць аб музычнай культуры раёна, развіцці на вёсцы мастацкай самадзейнасці.

ГОМЕЛЬ. Буксіры-штурхачы і пасажырскія судны на падводных крылах тыпу «Палессе», якія выпускаюцца тут, маюць высокія эксплуатацыйныя характарыстыкі. Яны паспяхова прайшлі ўсе выпрабаванні ў рачніках Беларусі, Украіны і Сібіры.

ФОТАРЭПАРТАЖ





Хутка заваяваў папулярнасць у магіляўчан магазін «Маладосць», які адкрыўся нядаўна ў мікраараёне «Юбілейны». Прасторныя гандлёвыя залы, афармленыя прыгожымі свяцільнікамі, нестандартнае абсталяванне ствараюць максімум зручнасцей для пакупнікоў і прадаўцоў, надаюць атмасферу святочнасці і ўтульнасці.

Абслугоўвае наведвальнікаў маладзёжны калектыў. Пакупкі ў магазіне можна набыць за наяўныя грошы і ў крэдыт. Акрамя таго, па просьбе пакупнікоў аказваюцца дадатковыя паслугі: камплектуюцца падарачныя наборы, афармляюцца выклікі таксі, наладжваюцца дэманстрацыі новых мадэлей адзення, выстаўкі-продажы. У магазіне ўстаноўлены гульнявыя аўтаматы, працуе ўтульны кафэтэрый, дзе можна выпіць кубачак кавы ці шклянку соку.

НА ЗДЫМКАХ: прадавец аддзела парфюмерыі Любоў ЛАЎРЫНОВІЧ; у кафэтэрыі «Маладосць».

## ЛАНГЕПАС—ГОРАД БЕЛАРУСКІ



# І. АБЖЫВАЮЦЦА «ВАВЁРЧЫНЫ ЎГОДДЗІ»

**Яшчэ шэсць гадоў назад гэты дзікі куток Цюменскай вобласці з непраходнымі балотамі ды чэзлым кедрачом на ўзгорках жыў сваім адвечным жыццём. Толькі зрэдку які паляўнічы ці рыбак — зімой на аленях, летам на лодцы — заглядваў сюды. А сёння тут ужо стаіць горад, дзе жыве некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Ён атрымаў назву мясцовасці — Лангепас, што ў перакладзе з хантыйскай мовы значыць «вавёрчыны ўгоддзі». А пабудавалі горад нашы землякі — беларусы з Мінска і Маладзечна, Гомеля і Светлагорска, Гродна і Вілейкі...**

**Сёння мы пачынаем публікацыю нарыса відавочніка і ўдзельніка тых падзей, журналіста Леаніда АНІКЕЕВА, таксама нашага земляка, былога жыхара пасёлка Радашковічы Мінскага раёна.**

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму гэта беларусам спатрэбілася будаваць горад за пяць тысяч кіламетраў ад свайго дома сярод непраходных багнаў і вечнай мерзлаты Сібіры? Адказ трэба шукаць у мінулых часах і сённяшнім дні.

Здаўна, яшчэ з часоў казацкага атамана Ермака, які ў XVI стагоддзі праклаў дарогу да Іртыша, зямля гэтая прыцягвала чалавека сваёй неабсяжнасцю, суровай таямнічасцю, нелічанымі багаццямі. «Паче всех частей света исполнена пространства и драгими зверьми бесценными. Рек великих и средних, заток и озёр неизчетно. Рыб изобильно, множественно и ловитвенно. Руд, золота и серебра, меди, олова, свинцу, булату, стали, красного железа и укладу, камней еще много», — пісаў два стагоддзі назад даследчык краю Сямён Рэмезаў. Але доўгі час гэтыя скарбы былі не[illegible]альнымі для чалавека. Вель[illegible]літасцівая тутэйшая прырода, і мала хто мог выстаяць з ёю сам-насам. Таму нашы далёкія продкі маглі ўзяць адсюль толькі «вяршкі», тое, што, як кажуць, зверху ляжала — пушніну, рыбу, кедравыя арэхі, больш адчайныя спрабавалі золата шукаць. Асноўныя ж багацці, «карэньчыкі», заставаліся некранутымі. Толькі з трыццатых гадоў нашага стагоддзя чалавек, узброены ведамі, тэхнікай, калектыўным розумам і воляю, пачаў сістэмнае, планамернае асваенне Сібіры. Тут былі пабудаваны буйныя гідраэлектрастанцыі, руднікі, прамысловыя комплексы. Драўніна, вугаль, жалезная руда, алмазы, золата, графіт... (амаль усе элементы, што змяшчае табліца Мендзялеева) сталі рэальна служыць народам, якія аб'ядналіся ў адзіную дзяржаву — СССР.

А з пяцідзесятых гадоў людзі пачалі асвойваць самыя галоўныя багацці гэтага краю — нафту і газ. Сёння тут адкрыта ўжо больш за 250 радовішчаў «чорнага і блакітнага

(Заканчэнне на 4-й стар.).



**НА ЗДЫМКАХ: «вавёрчыны ўгоддзі» сёння і шэсць гадоў назад.**

## КАНДЫТАР З НЯСВІЖЧЫНЫ— ЛАЎРЭАТ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ СССР

# «ФІРМА» ШАТОХІНАЙ

ДРУГІ снежань запар я адпраўляюся ў журналісцкую камандзіроўку з аднолькавым рэдакцыйным заданнем: прадставіць чытачам «Голасу Радзімы» аднаго з новых лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР (нагадаю, Дзяржаўнымі прэміямі СССР у нашай краіне штогод адзначаюцца буйныя ўклады ў развіццё навукі, культуры, архітэктуры або высокія дасягненні ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве). І прыязджаю... па аднаму і таму ж адрасу: Мінская вобласць, Нясвіжскі раён, пасёлак Гарадзея.

Не перабольшу, калі скажу, што такія высокія ўзнагароды жыхароў, ды яшчэ двойчы запар, зрабілі б гонар і любому вялікаму гораду. А пра пяцітысячны пасёлак, якім з'яўляецца Гарадзея, зразумела ж, і гаварыць не даводзіцца. Далёка за межы Беларусі разнеслася яе цяперашняя вядомасць...

Лаўрэат 1985 года рабочы мясцовага цукровага камбіната Анатоль Дрожжын запомніўся мне як чалавек з высокім пачуццём прафесіянальнай годнасці, заснаваным на глыбокім усведамленні сваёй ролі як прадстаўніка авангарднага класа ў савецкім грамадстве. А якім жа будзе галоўнае ўражанне ад сустрэчы з лаўрэатам 1986-га, думаў я ў дарозе.

— ...Алена Лявонаўна, да вас.

Сярод дзесятка жанчын у белых халатах я не адразу разгледзеў тую, каму адрасаваўся гэты зварот, хаця і ведаў яе па фотаздымку, які месяц назад абышоў рэспубліканскія газеты. І толькі, калі адна з жанчын ступіла крок насустрач, пазнаў: яна, Шатохіна. Першы і пакуль што адзіны ў Беларусі кандытар, удастоены такой ганаровай прэміі. Мяккія і прыветлівыя рысы твару: бліскучы позірк карых вачэй і стрыманая, ледзь прыкметная ў краёчках вуснаў усмешка...

Да сустрэчы з Шатохінай мне, прызнаюся, была не зусім зразумелай такая высокая дзяржаўная ацэнка яе працы. Якімі, гадаў, матывамі кіравалася аўтарытэтная маскоўская камісія, выдзяляючы ў лаўрэаты кандытара, прадстаўніка такой, на першы погляд, непрыкметнай у нашым грамадстве прафесіі?

Але прафесія кандытара набыла зараз вялікую сацыяльную значнасць і адыгрывае таксама важную ролю ў развіцці грамадскага харчавання ў краіне. А новы лаўрэат не проста звычайны работнік, а самы сапраўдны ў рэспубліцы лідэр у сваёй справе. Разнастайныя торты, піражныя, пячэнне і іншыя вырабы, пазначаныя «асабістым кляймом» Шатохінай, незвычайна смачныя і прыгожыя.

У працоўнай біяграфіі трыццацідзевяцігадовай Алены Шатохінай сёлетняя зіма—дваццаць чацвёртая. Гэтак рана дарослае жыццё ў яе пачалося не па ўласным жаданні—лёс прымусіў. Была старэйшай сярод шасці малалетніх братоў і сясцёр. А як жылося мнагадзетным сем'ям у Беларусі ў першыя пасляваенныя гады—вядома! Цяжка. Дзяўчынка-школьніца пайшла прыбіральшчыцай у рабочую сталоўку. Ведала: ні на якую іншую работу яе не возьмуць у няпоўныя пятнаццаць. А тут вось, у сталоўцы, і адкрыліся яе сапраўдныя здольнасці—спачатку кулінара, а потым і кандытара.

Шчаслівым працоўным лёсам Алена Лявонаўна найбольш удзячна і абавязана ў сваім жыцці бабулі Марыі Мікалаеўне і былому дырэктару



аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання раёна Ганне Маркевіч.

Бабулі—за тое, што яна ў дзіцячай душы пасеяла зярняты цікавасці да кандытарскай справы. Пры буржуазнай Польшчы тая служыла кухаркай у пана. Панская сям'я, адна ў акрузе, штодзённа харчавалася разнастайнымі стравамі. І калі ў Заходнюю Беларусь прыйшла Савецкая ўлада ды ў сына з'явіліся дзеці, Марыя Мікалаеўна спачатку зрэдку, толькі на вялікія святы, а потым і часцей, калі сталі жыць больш заможна, любіла частаваць такімі ж стравамі і сваіх унукаў. Цеста «ажывала» ў яе руках, набываючы выгляд разнастайных звяроў і птушак. А Алена, старэйшая, была для бабулі першай памочніцай...

Дзякуючы Ганне Іванаўне працавітая дзяўчына стала сур'ёзна займацца кандытарскай справай. Садзейнічала дырэктар Аленінаму жаданню атрымаць спецыяльную адукацыю ў Баранавіцкім тэхналагічным тэхнікуме.

З таго часу і пайшло ў Шатохінай у рост майстэрства з амаль аднначасовым яго грамадскім прызнаннем. Так-так, не здзіўляйцеся—як у самага сапраўднага творчага работніка. Мастачкі, напрыклад. Бо ў кандытарскай справе—думка сёння не адной Алены Лявонаўны—абавязкова патрэбна фантазія. Без рук і вачэй мастака нельга быць у ёй сапраўдным майстрам.

Алена пераканалася ў гэтым яшчэ пятнаццаць гадоў назад, у час свайго першага прафесіянальнага конкурсу — абласнога, у якім маладая прадстаўніца Нясвіжчыны ўдзельнічала ўпершыню. Вось дзе было на што паглядзець! Нялёгкая задача стаяла тады перад членамі журы: прызнаць, чый торт лепшы. Вырашылі пераможныя балы налічыць «Размове на паляне», дзівоснай, з вожыкам і зайцам, лясной карцінцы, якая ўпрыгожвала торт.

Аказалася, што гэта работа дэбютанткі... А неўзабаве прыйшла і больш шырокая вядомасць—сярод кандытараў усёй рэспублікі...

Сёння восемдзесят назваў у асартыменце мучных вырабаў Гарадзейскага кандытарскага цэха, якім кіруе ардэнаносец і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны работнік гандлю і грамадскага харчавання Беларускай ССР Алена Шатохіна. Празвалі цэх у раёне «фірмай» Шатохінай. Магчымасць ацаніць яе вырабы ўжо некалькі гадоў маюць і жыхары беларускай сталіцы. А зараз... У час камандзіроўкі я стаў сведкам тэлефоннага званка ў Нясвіж з Міністэрства гандлю СССР: пазнаёміцца з прадукцыяй «фірмы» выказалі жаданне масквічы.

Працоўныя будні Алены Лявонаўны насычаны сёння не толькі рэалізацыяй уласнай фантазіі і вытворчымі пытаннямі. Яна ўзначальвае створаную шэсць гадоў назад пры гарадзейскім прадпрыемстве абласную школу кандытараў, якая за гэты час дала Міншчыне больш за сто прафесіяналаў. Ёсць ужо сярод іх і прызнаныя майстры, прызёры рэспубліканскіх і нават усесаюзных конкурсаў.

— Расце ў вас, Алена Лявонаўна, колькасць саперніц, —здараецца, гавораць ёй.

— Паслядоўніц, — заўсёды папраўляе яна.

У Шатохінай дзяржаўны погляд на справу. Гэта галоўнае, што застаецца ў памяці пасля сустрэчы з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР тысяча дзевяцьсот восемдзесят шостага...

Міхась СТЭЛЬМАК.

**НА ЗДЫМКУ: кандытар Алена ШАТОХІНА.**

**Фота Д. ТУРКО.**

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

Дарагая рэдакцыя «Голасу Радзімы»!
Прашу прыняць ад нас найлепшыя пажаданні ў сувязі з Новым, 1987 годам!
Пажаданні добрага здароўя і вялікага шчасця вам і вашым родным шлюць дзесяць асоб: чацвёра Астаневічаў, чацвёра Дыбліжбанскіх і двое нас, Клава і Васіль Петручукі.
Яшчэ хочацца дадаць наступнае: няхай над Краінай Саветаў заўсёды будзе блакітнае неба, чыстае паветра і ўраджайнае надвор'е!

Беласток, ПНР.

Дарагія сябры!
Сардэчна віншуем рэдакцыю газеты «Голас Радзімы», усіх яе супрацоўнікаў з надыходзячым 1987 годам!
Жадаем асабістага шчасця, добрага здароўя, а таксама новых вялікіх поспехаў у вашай высакароднай працы на карысць прагрэсіўнага чалавецтва!
Жывучы ўдалечыні ад Радзімы, мы таксама дзелім святочныя пачуцці з савецкім народам і ганарымся вашымі дасягненнямі.
Са шчырай павагай.

Сям'я КУПЕРУС-МАРЧАНКА.

Галандыя.

Дарагія сябры, супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!
Віншую вас, увесь савецкі народ з Новым, 1987 годам! Ад усяго сэрца жадаю вам здароўя, шчасця, поспехаў у рабоце і дабрабыту ў асабістым жыцці!
Вялікае дзякуй за газету і брашуры, якія ўзбагачаюць наша жыццё. Няхай наша Радзіма і ў далейшым жыве пад мірным небам і паспяхова выконвае намечаныя грандыёзныя планы.

Марыя МЕХАНОШЫНА.

Аўстралія.

Ад усёй душы віншую Беларускае таварыства «Радзіма» і рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» з Новым, 1987 годам!
Сардэчна жадаю ўсяго самага найлепшага ў жыцці, здароўя, шчасця і міру на зямлі!
Вялікае дзякуй, што не забываеце нас, хто жыве ўдалечыні ад Радзімы. Календары, якія мы нядаўна атрымалі, вельмі парадавалі ўсіх нас і будуць на працягу ўсяго года напамінаць нам аб роднай зямлі.

Вольга АНАНІЧ.

Швецыя.

Паважаныя супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!
Прыміце нашы навагоднія віншаванні! Шчыра жадаем вам здароўя, поспехаў і радасці. Мінулы год быў аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Годам міру. Няхай не на словах, а на справе будуць мірнымі і ўсе наступныя гады!
Шчаслівага Новага, 1987 года!

Аліна і Канстанцін ПАРУСІСЫ.

Канада.



Навагодняя ёлка на Прывакзальнай плошчы ў Мінску.

## СТУДЭНТЫ З УГАНДЫ ВУЧАЦЦА Ў МІНСКУ

# ВАШ ВОПЫТ ДАПАМОЖА НАМ

**Наша рэспубліка лічыцца буйным цэнтрам па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў для краін, што сталі на шлях развіцця, і краін сацыялістычнай садружнасці. Значна вырас аўтарытэт беларускага дыплома і ў капіталістычных дзяржавах, нямала прадстаўнікоў якіх таксама вучацца ў Беларусі. У Міністэрстве вышэйшай і сярэдняй адукацыі БССР нам паведамілі наступныя даныя: за дзесяць год у беларускіх вышэйшых навучальных установах падрыхтавана 7 747 спецыялістаў для 106 краін, а сёння тут вучыцца звыш 6 300 студэнтаў з 102 дзяржаў.**

**Мы расказалі аб усім гэтым, паважаныя чытачы, вось у сувязі з чым. Напярэдадні Новага года да нас у рэдакцыю зайшоў малады чалавек.**

**— Мяне завуць Язідзі Ківумбі. Я студэнт факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна,— прадставіўся ён і перадаў нам рукапіс інтэрв'ю са сваімі суайчыннікамі з Уганды, студэнтамі-выпускнікамі Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.**

**Прапануем яго вашай увазе.**

Дзіўна, але вучоба ў сталіцы Беларусі — Мінску дала мне магчымасць пазнаёміцца і пасябраваць з многімі людзьмі, якіх, пры іншых акалічнасцях, я мог ніколі і не сустрэць. Затое цяпер добра знаёмы са спецыялістамі, якія будуць працаваць у розных галінах народнай гаспадаркі ў нас ва Угандзе. А гэта вельмі важна для журналіста. У хуткім часе група маіх суайчыннікаў заканчвае вучобу ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі (БІМСГ) і едзе на радзіму. Я папрасіў іх расказаць аб тым, як праходзіла вучоба ў Савецкім Саюзе, што яна дала маім сябрам.

— Перш за ўсё раскажыце, як вы трапілі сюды.

— Пасля сканчэння школы я паступіў у сельскагаспадарчы інстытут у Бусітэлі,— расказвае Вандэра Джонес.— Дарэчы, гэта навучальная ўстанова, як і многія іншыя, была пабудавана ва Угандзе з дапамогай Савецкага Саюза. У 1980 годзе групе студэнтаў, сярод якіх быў і я, прапанавалі паехаць на вучобу сюды, і я з радасцю згадзіўся. Сёння адной з буйнейшых сусветных праблем з'яўляецца становішча насельніцтва краін, што сталі на шлях развіцця, дзе жыве больш за 2 мільярды чалавек. Да іх адносіцца і Уганда. У спадчыну ад капіталізму нам дасталася беднасць і непісьменнасць. Хранічнае недаяданне выклікае цяжкія хваробы, вельмі высокая дзіцячая смяротнасць. Аб гэтым добра ведаюць у Савецкім Саюзе і ставяцца з вялікім разуменнем да нашых праблем. Савецкі ўрад падтрымлівае справядлівую барацьбу краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі супраць імперыялізму, за права самім распараджацца ўласнымі рэсурсамі, за перабудову міжнародных адносін на прынцыпах раўнапраўя. Ваша краіна аказвала і аказвае дапамогу маладым дзяржавам у гаспадарчым і культурным будаўніцтве, падрыхтоўцы нацыянальных кадраў спецыялістаў. Наша вучоба тут — адна з канкрэтных праяў такой дапамогі.

— Як праходзіла ваша вучоба ў Мінску?

— Мы пачалі вучобу на падрыхтоўчым факультэце,— успамінае Стэфан Муамбу.— Спачатку было вельмі цяжка, таму што мы зусім не ведалі мовы. Але прайшоў час, вывучылі літары, словы, потым сказы і паступова сталі разумець, а потым і гаварыць па-руску. Пасля гэтага дабавіліся новыя прадметы — матэматыка, фізіка, хімія, чарчэнне, гісторыя і іншыя. На падрыхтоўчым факультэце абучаліся студэнты з розных краін, але ўсе мы пасябравалі. Вельмі добрыя адносіны склаліся з выкладчыкамі. Яны заўсёды былі гатовы аказаць нам дапамогу, праводзілі з намі нават і свой вольны час. І вось у 1981 годзе мы сталі студэнтамі БІМСГ. Першы семестр быў вельмі цяжкім. Мы слухалі лекцыі разам з савецкімі студэнтамі, і трэба было навучыцца хутка пісаць. Але паступова прывыклі. Акрамя лекцый і практычных заняткаў, у канцы кожнага семестра ў нас была вытворчая практыка. Гэта вельмі карысна для студэнтаў. Практыка дае магчымасць паглыбіць і канкрэтызаваць тэарэтычныя веды, якія спатрэбяцца нам дома. Спецыялістаў сельскай гаспадаркі цяпер не хапае ў краінах, што сталі на шлях развіцця, а мы зможам прыносіць вялікую карысць.

— Якія вашы ўражанні аб Беларусі?

— Пасля столькіх год вучобы тут мы ўжо можам лічыць сябе мінчанамі,— усміхаецца ў адказ Муцьяба Седрык.— Хачу сказаць, што ўсе беларусы вельмі добрыя і шчыра хочуць жыць у міры і дружбе з іншымі народамі. У гэтым пераконваешся, калі бліжэй пазнаеш гісторыю Беларусі. А мы мелі такую магчымасць і ведаем, якія ахвяры панёс гэты народ у гады Вялікай Айчыннай вайны. Мы ніколі не забудзем шматлікія экскурсіі па гарадах Беларусі, па іншых рэспубліках многанацыянальнага Савецкага Саюза. Не забудзем вечары дружбы з савецкімі студэнтамі, сустрэчы з ветэранамі вайны і перадавікамі вытворчасці. Трэба сказаць і аб тым вялікім уражанні, якое зрабіў на нас XXVII з'езд КПСС. Савецкія камуністы зусім не хаваюць сваіх планаў і праблем, аб усім гаварылася адкрыта. З'езд яшчэ раз пацвердзіў курс КПСС на захаванне міру, на падтрымку народаў краін, што сталі на шлях развіцця, у барацьбе за незалежнасць і сацыяльны прагрэс. Палітычны даклад, з якім выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, выкладзеныя ў ім планы далейшага развіцця краіны зрабілі на нас вялікае ўражанне. Мы рады, што мелі магчымасць пазнаёміцца з жыццём першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Яе вопыт вельмі спатрэбіцца нам пры будаўніцтве новага жыцця ў сябе на радзіме.

— Тут, у Мінску, мы сталі інжынерамі-механікамі ў галіне сельскай гаспадаркі,— сказаў у заключэнне Вандэра Джонес.— Мы будзем прыносіць вялікую карысць. Я б вельмі хацеў праз некаторы час зноў прыехаць сюды, каб прадоўжыць вучобу ў аспірантуры. А для таго, каб вучыцца, працаваць і жыць у добрых умовах, нам патрэбен мір. Наша планета павінна пазбавіцца ад войнаў і зброі. Вось чаму мы шчыра падтрымліваем мірныя ініцыятывы, з якімі выступае Савецкі Саюз.

**Язідзі КІВУМБІ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ.**

# І. АБЖЫВАЮЦЦА «ВАВЁРЧЫНЫ ЎГОДДЗІ»

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

...золата». Сібір стала асноўнай базай па забеспячэнню народнай гаспадаркі краіны каштоўнай сыравінай і рэсурсамі, магутнай крыніцай, якая сілкуе эканоміку ўсіх саюзных рэспублік. Як сказаў рускі пісьменнік Ягор Ісаеў, «Сібір — яна не толькі якуцкая, руская, бурацкая... Яна і ўкраінская, беларуская, азербайджанская, туркменская — усенародная, усесаюзная Сібір».

У асваенні гэтага багатага рэсурсамі рэгіёна ўдзельнічаюць буйныя гарады еўрапейскай часткі СССР, усе саюзныя рэспублікі. Ніжневартаўск будуюць масквічы, Когалым — латышы, літоўцы, эстонцы, Наябрск — украінцы, Новы Урэнгой — ленінградцы... Беларусы пераўтвараюць «вавёрчыны ўгоддзі».

...З Ніжневартаўска верталёт бярэ курс на паўночны захад. Унізе, сярод балот, пакручастай стужкай цягнецца рака Об. А далей — вялізная, на дзесяткі кіламетраў залітая вадой пойма. Прыгадваецца жарт першапраходцаў: «Няпраўда, што тут суцэльныя балоты. Яны займаюць толькі палову тэрыторыі, а астатняе — вада».

І раптам унізе пад верталётам, сярод гэтай дзікай прыроды, нечакана ўзнікае абсалютна кантрастны пейзаж: шматпавярховыя будынкі з цэглы і бетону, асфальтаваныя вуліцы, пляцоўкі, стадыён... Гэта Лангепас. За гады адзінаццатай пяцігодкі (1981—1985) беларусы пабудавалі тут больш за 223 тысячы квадратных метраў жылля, аб'екты сацыяльна-бытавога і культурнага прызначэння: дзве школы, чатыры дзіцячых сады, клуб юнага тэхніка, бібліятэку, бальніцу, паліклініку, магазіны, сталовыя... Аб'ём будаўнічамантажных работ за пяць гадоў склаў 137 мільёнаў рублёў.

У будаўніцтва Лангепаса ўкладзена праца не толькі тых, хто прыехаў сюды. Вытворчы канвеер пачынаецца за пяць тысяч кіламетраў адсюль: уся рэспубліка прымае ўдзел у будаўніцтве горада для цюменскіх нафтавікоў. Яго праект распрацавалі спецыялісты мінскага інстытута «Белдзяржпраект». Буйнапанельныя 5—9-павярховыя дамы пастаўляе калектыў Гомельскага домабудаўнічага камбіната. Жалезабетонныя вырабы, канструкцыі для аб'ектаў сацыяльнай сферы паступаюць у Лангепас са Светлагорска, Гродна, Салігорска, Бабруйска, Оршы, шыфер — з Крычава, металаканструкцыі — з Маладзечна, цэгла — з Магілёва, цэмент — з Ваўкавыска... Першая рыса гэтым калектыўным намаганням была падведзена 15 жніўня 1985 года, калі Лангепасу быў нададзены статус горада.

Цяпер вакол Лангепаса сфарміраваўся вялікі раён, дзе распрацоўваецца і эксплуатуецца каля дзесятка нафтавых радовішчаў — спадарожнікаў вядомага Саматлора. У наваколлях новага горада штогод здабываюцца дзесяткі тысяч тон нафты, перапрацоўваецца больш двух мільёнаў кубічных метраў газу. Але гэта толькі пачатак. З бягучай пяцігодцы Лангепас значна павялічыць маштабы здабычы каштоўнай сыравіны.

Таму і ў беларускіх будаўнікоў новыя клопаты. За гэтыя пяць год яны павінны пабудаваць 350 тысяч квадратных метраў жылля ў комплексе з аб'ектамі сацыяльнай сферы. У дванаццатай пяцігодцы нашы землякі плануюць асвоіць больш чым 300 мільёнаў рублёў.

Гэта толькі самыя агульныя даты і факты, за якімі стаіць напружаная праца канкрэтных людзей. У наступным нумары мы раскажам пра іх.

**Леанід АНІКЕЕЎ.**







**В некоторых странах мира сейчас успешно разрабатываются и эксплуатируются солнечные электростанции (СЭС).**
**Занимаются этой проблемой и советские ученые. В Крыму уже второй год действует экспериментальная СЭС, мощность которой 5 миллионов ватт. Схема ее довольно проста: вокруг парогенератора размещены гелиостаты — огромные рефлекторы; лучи солнца греют пар, он вращает турбину, которая и вырабатывает электроэнергию. Самое сложное здесь — «научить» гелиостаты в любое время года держать солнце в поле зрения. И не просто держать, а с точностью до градуса следить за его движением, собирать лучи в центр парогенератора.**
**Эту и некоторые другие проблемы эксплуатации Крымской СЭС решают белорусские ученые — сотрудники Западного филиала Всесоюзного теплотехнического института имени Дзержинского, где сделаны публикуемые снимки.**
**НА СНИМКАХ: энергия солнца служит людям; кандидат технических наук Вильгельм ДУБИЛОВИЧ — заведующий лабораторией физико-технических процессов; исследования проводят кандидат технических наук Николай ТЮШКЕВИЧ и научный сотрудник Галина ПЫЛЬНИКОВА.**

**Фото Е. ПЕСЕЦКОГО.**

## *ГОНКА ВООРУЖЕНИЙ И РАЗВИВАЮЩИЕСЯ СТРАНЫ*

# НЕПОСИЛЬНОЕ БРЕМЯ

Делийская декларация руководителей Индии и Советского Союза, получившая широчайший международный резонанс, вновь привлекла внимание к тому бремени, которое возлагает на мир гонка вооружений. С особой силой —и прямо и косвенно—эта гонка подрывает неокрепшую экономику развивающихся стран. По подсчетам экспертов ООН, в 80-х годах военные затраты этих государств —сознательно или вынужденно—возрастали на 0,9 процента на каждый процент прироста дохода на душу населения. Другими словами, гонка вооружений снижала их способность преодолеть нищету примерно вдвое. Происходит, к сожалению, и милитаризация международных отношений, в т. ч. экономических.

Становится все яснее, что между милитаризмом и кризисом развития существует очевидная и многоплановая связь.

Во-первых, отвлекая громадные средства, милитаризм не оставляет ресурсов на расширение официальной помощи развитию. В 80-х годах ее показатель застыл на уровне вдвое меньшем, чем рекомендовано ООН. В результате развивающиеся страны вынуждены занимать средства у частных банков под сверхвысокий процент. Но и сам уровень этого процента также является порождением милитаризма. Около трех четвертей свободных средств денежного рынка в США снимается администрацией на покрытие дефицита военного бюджета. Остальная же часть заведомо не может удовлетворить спрос на кредит по его нормальной ставке.

Так родилась «весомая прибавка» к долгам развивающихся стран, причем платежи по ним частично идут на финансирование гонки вооружений. «Всевозможными путями,—отмечает индийская «Нейшнл геральд»,—империалистические державы во все возрастающих размерах перекачивают ресурсы развивающихся стран в с[illegible] экономику. Испытывая [illegible]тивное влияние милитаризма, развивающиеся страны вынуждены еще и сами финансировать его, несмотря на то, что пропасть между ними и промышленно развитыми странами все увеличивается, а их население все еще не может в полной мере воспользоваться плодами своей независимости».

Действительно, пик мировых военных расходов совпал с глубочайшим кризисом экономики освободившихся государств. В условиях, когда расходы американских ВМС превышают бюджеты всех стран Латинской Америки, а бюджет ВВС—всех стран Африки, «совсем не обязательно запускать ракету с подводной лодки «Трайдент», а потом считать погибших,—признавал английский журнал «Сэнити».—Миллионы людей, умирающих каждый год от голода и связанных с ним болезней, также можно частично считать жертвами гонки ядерных вооружений...»

Во-вторых, гонка вооружений подрывает и собственную базу экономического роста развивающихся стран. Их военные расходы, по подсчетам экспертов АН СССР, сокращают местный фонд накопления примерно на одну треть. Конечно, ряд стран вынужден прибегать к ним для отражения агрессии и провокаций империализма и его агентуры. Однако есть и такие государства, правительства которых вооружаются либо против своих соседей, либо против собственных народов. По оценкам экспертов ООН, при затратах на вооружение порядка 6—8 процентов ВНП развивающаяся страна, особенно малая, обречена на стагнацию своего экономического роста. Между тем эта доля у всего развивающегося мира составляет ныне около 5 процентов, в Восточной Азии—8 процентов, Западной Азии—даже 12 процентов. В 80-х годах у 20 освободившихся государств импорт оружия формировал 20 процентов прироста суммы долга, у четырех—даже 40 процентов.

Не случайно военные расходы развивающихся стран в последние три года несколько снизились. Однако это не устраивает военно-промышленные монополии Запада, которым уже мало рынков вооружений одних лишь стран НАТО. Вкупе с империалистической дипломатией они провоцируют региональные конфликты, которые дают им немалые прибыли, а развивающимся странам наносят прямой ущерб от военных действий. Примером может служить бессмысленный ирано-иракский конфликт, уже стоивший его участникам миллиарды. Подпольные поставки американского оружия Ирану производились по ценам, завышенным на две трети, а разница направлялась ЦРУ на финансирование никарагуанских «контрас». В свою очередь, бандитская деятельность последних вкупе с американскими санкциями уже принесла Никарагуа убыток в размере около 2 миллиардов долларов, а ущерб для торговли центральноамериканских стран в целом, вызванный ухудшением здесь политической обстановки, оценивается специалистами еще в один миллиард.

В-третьих, нельзя забывать и о косвенных последствиях гонки вооружений для развивающихся стран. Менее материалоемкое военное производство относительно уменьшает спрос на их сырье. Например, при всем громадном весе танков и кораблей 40 процентов их стоимости приходится ныне на изделия электроники, а не на металл, а это одна из причин рекордно низких цен сырьевых товаров. Военно-исследовательские работы все дальше уводят новую технологию от гражданских нужд, закрывают ее завесой секретности. Характерный пример здесь—та же [illegible]грамма СОИ.

«Пр[illegible]мма звездных войн,—характеризует ее американский журнал «Уорлд полиси джорнэл»,—остается военным проектом, и все НИОКР (научно-исследовательские и опытно-конструкторские работы.—**Прим. ред.**) в ней будут осуществляться в соответствии с военной практикой и ориентированы на достижение военных целей... Важные открытия, которые могут найти применение в гражданской области, будут засекречены... В конце концов это приведет к задержке применения новых технологий для решений крупномасштабных экономических проблем», в т. ч. и проблем развивающихся стран.

Тем актуальнее становится лозунг «разоружение для развития», несущий в себе не только мир, но и социальный прогресс для всех народов. Выдвинутый странами социалистического содружества и одобренный движением неприсоединения на его последней конференции в Хараре, он стал ныне базой совместной борьбы социалистических и развивающихся стран за реализацию обеих этих целей. Этапы на пути их достижения—очередная сессия Генеральной Ассамблеи ООН, принявшая ряд важных резолюций в пользу создания всеобъемлющей системы обеспечения мира и безопасности, а также созываемая в 1987 году Конференция ООН по разоружению и развитию.

Этим благородным целям служит и Делийская декларация, призывающая к созданию безъядерного и свободного от насилия мира. «Ее международное значение,—подчеркивал индийский премьер Р. Ганди,—со временем будет все более и более нарастать». Как будет нарастать и стремление развивающихся народов сбросить с себя бремя гонки вооружений.

**Михаил РОЩИН.**
(АПН).

**НОВОЕ В ТЕХНОЛОГИИ СТРОИТЕЛЬСТВА**

## ДВУХКВАРТИРНЫЙ ДОМ ЗА ТРИ ЧАСА

Двухквартирный дом со всеми современными удобствами и даже с мебелью поставляется потребителю в контейнерах и собирается как бы из трех кубиков всего за два-три часа.

Специалисты опытного производственно - технического предприятия «Энерготехпром» Министерства энергетики СССР разработали оригинальную технологию и оборудование для изготовления строительных материалов, деталей и конструкций зданий различного назначения. Свою систему они назвали «Пионер». В ее состав входят три подсистемы: здания для объектов производственного, складского назначения и соцкультбыта; здания контейнерные и сборно-разборные для жилых поселков и административно-бытовых городков; здания сборно-разборные производственного и складского назначения, используемые на объектах длительного строительства. Все они различаются, естественно, по своему функциональному назначению: жилой дом, здравпункт, столовая, клуб, магазин, детский сад-ясли, школа, узел связи с пожарным постом, коммунально-бытовой блок с прачечной.

Несколько слов о конструкции домов. Это металлодеревянный каркас, наружная и внутренняя обшивка которого выполнены из цементно-стружечной плиты — материала, сочетающего прочность с огнеустойчивостью, биостойкость с водостойкостью. Плиты хорошо поддаются обработке различными инструментами, окрашиваются в яркие цвета, а главное, изготавливаются из древесных отходов и цемента. Эти блок-контейнеры рассчитаны на районы с температурным режимом от минус 65 до плюс 60 градусов по Цельсию. Первая опытная партия из 30 блок-контейнеров была направлена в Прибалтику, в поселок строителей Кайшядорской гидроаккумулирующей электрической станции.

География поставок расширяется. Это крупные стройки страны — Экибастуз, КАТЭК, Северный Сахалин. Всего за 1986 год было поставлено и смонтировано 500 сборно-разборных зданий и блок-контейнеров системы «Пионер».

Растет спрос на эти здания и за рубежом. В 1983 году первая бригада монтажников «Энерготехпрома» выезжала в Йемен на сборку поселка для строителей тепловой электростанции и опреснительного комплекса «Аден». Такие же поселки выросли на строительстве тепловой электростанции «Жижель» в Алжире, теплоэлектроцентрали паровоздушной станции при металлургическом комбинате в Нигерии, теплоэлектроцентралей в крупных городах Монголии и Иракской национальной нефтяной компании. Строители, проживающие в этих поселках, оценили их по достоинству.

В 1986 году началось производство мобильных зданий второго поколения. В ближайшее время выпуск блок-контейнеров увеличится до 5 тысяч в год.

**Анна СТИРНЕЛЬСКАЯ.**

## У ГАДЫ ВАЙНЫ ЁН ЗМАГАЎСЯ ВЕРШАМІ

# ЯКУБ КОЛАС У КЛЯЗЬМЕ

Амаль у кожнага чалавека ёсць свой любімы пісьменнік, паэт, кампазітар. Для мяне ім з дзяцінства быў і застаецца Якуб Колас. Я, бадай, і сам не змог бы адразу адказаць, чаму, за што я люблю яго вершы, паэмы і аповесці. Можа быць, за іх прастату і праўдзівасць адлюстравання вясковага жыцця, лірычнасць, за тое, што ў большасці яго твораў жывуць і дзейнічаюць героі, якія ў розных умовах могуць абараняць сваю годнасць, свабоду і незалежнасць роднага краю.

Мне ўдалося пабываць у многіх мясцінах, звязаных з біяграфіяй і творчасцю Якуба Коласа. Неаднаразова прыязджаў на радзіму паэта ў Мікалаеўшчыну, бываў у Літаратурным музеі паэта ў Мінску, хадзіў старымі вуліцамі Нясвіжа, дзе вучыўся Я. Колас у настаўніцкай семінарыі і дзе фарміраваўся яго светапогляд, быў на Палессі, дзе працаваў настаўнікам будучы паэт. Нядаўна наведаў куток у Падмаскоўі — тут жыў і працаваў Якуб Колас у гады Вялікай Айчыннай вайны.

З адказным сакратаром Пушкінскага гарадскога аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Я. Васільевым мы прыехалі ў пасёлак Клязьма. Ідзём па вуліцы Героя Савецкага Саюза Ф. Нялідава.

— Вось у гэтым доме,— гаворыць Яўгеній Іванавіч і паказвае на невялікі драўляны дом з мемарыяльнай дошкай на сцяне.

З хваляваннем у сэрцы адчыняю веснічкі.

...У апошнія дні чэрвеня 1941 года Якуб Колас упершыню зайшоў у гэты дом. Ён з сям'ёй эвакуіраваўся з палаючага Мінска і спыніўся ў роднага брата сваёй жонкі Марыі Дзмітраўны М. Каменскага, які працаваў на чыгунцы. Пакуты і гора землякоў паэта на акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі выклікалі глыбокі боль у сэрцы Якуба Коласа. У яго вершах тых дзён гучыць заклік да барацьбы, да помсты і цвёрдая вера ў перамогу:

**...Паўстань, народ, злучы**
**ўсе сілы**
**Супроць тэўтонскае арды,**
**Супроць пачвары тупарылай,**
**Што нішчыць сёлы, гарады!**

Пры наведванні рэдакцыі газеты «Комсомольская правда» Я. Колас гутарыў з работнікамі рэдакцыі Л. Траццяковай і Я. Хелемскім. «Не, маладыя людзі, — гаварыў ім паэт, — не так усё проста, я ж толькі што з пакінутага і палаючага Мінска, бачыў, што яны робяць... Вайна гэтая не на месяц, нават не на год. Яны хочуць з намі хутка справіцца — не атрымаецца ў іх так. Але і мы іх не адразу зломім. Многа крыві пральецца... Каб не мае гады — хутка шэсцьдзесят — паехаў бы на фронт. А мне загадваюць ваяваць вершамі».

І мужны голас паэта-патрыёта гучыць са старонак усесаюзнага друку, партызанскіх газет, па радыё. Лістоўкі з яго вершамі жыхары часова акупіраваных фашыстамі беларускіх вёсак і гарадоў перадавалі з рук у рукі. Коласаўскія радкі пранікалі ў сэрца кожнага чалавека.

**Не плач, зямля!**
**Народ мой, не тужы —**
**Вышэй узнімі сваю сякеру!**
**За здзек, за кроў,**
**за грабяжы —**
**На Гітлера, на звера!**

У Клязьме Пушкінскага раёна паэт піша вершы «На абарону», «Развітанне», «На гібель Гітлеру», «Голас ветру», «Смерць разбойнікам», «Байцам-камсамольцам» і іншыя. 18 ліпеня у «Комсомольской правде» публікуе верш «Душой і сэрцам мы з вамі, героі». Для газеты «За Советскую Белоруссию» (орган Упраўлення палітычнай прапаганды Заходняга фронта — **У. С.**) піша артыкул «Роднаму народу». 24 ліпеня 1941 года ў гэтай жа газеце апублікаваны зварот Я. Коласа і Я. Купалы да беларускага народа. «Цяжкое выпрабаванне выпала на твой лёс, наш родны край,— гаварылася ў ім.— Вераломны вораг, сусветны бандыт і разбойнік, рушыў свае дзікія орды, каваныя жалезам і браней... Усе сілы, усе думкі, усе парыванні тваёй душы няхай абрушацца на яго галаву смертаносным молатам. Знішчайце дарогі, дзе толькі ступіць капыт грабежніка, разбурайце сувязь».

У Падмаскоўі Колас працягвае працаваць над паэмай «Рыбакова хата». У пісьме да мастацтвазнаўцы А. Уса ён піша: «...цяпер яна стала не патрэбнай, і тая ідэя, на якой будуецца паэма, цяпер не з'яўляецца актуальнай. Засталося трэць работы... Сучасны момант дасць многа матэрыялу, і па-іншаму зірну на яе ў гэтыя дні».

У першай палавіне жніўня 1941 года Якуб Колас пакідае Клязьму і пераязджае ў Ташкент, куды была пераведзена Акадэмія навук БССР. Там таксама плённа працуе. На рускай і ўзбекскай мовах выходзяць некалькі зборнікаў яго вершаў. Паэт піша паэму «Суд у лесе». Часта па справах службы бывае ў Маскве і, вядома, наведвае Клязьму. 12—14 мая 1943 года ён прыязджае ў Пушкінскі раён і выра[illegible] справы, звязаныя з варт[illegible]эм да сваякоў жонкі. У Клязьменскім пасялковым Савеце атрымлівае даведку аб наяўнасці свабоднай плошчы ў доме К[illegible]менскіх і іх згодзе прапіса[illegible]зям'ю Міцкевіча.

У лістападзе 1943 года Якуб Колас вяртаецца ў Падмаскоўе. Тут даведваецца, што ў выдавецтве ЦК КП(б)Б «Советская Белоруссия» выйшаў новы зборнік вершаў «Голас зямлі». У пісьме да рускага паэта і перакладчыка С. Гарадзецкага паведамляе аб умовах жыцця і літаратурнай дзейнасці ў Клязьме. У сувязі з 25-годдзем БССР «трэба было напісаць вершы да юбілейнага дня для беларускай газеты,— паведамляе Я. Колас.— Напісаў вялікі артыкул, на цэлы падвал, для «Правды» (артыкул «Дваццаць пяць» апублікаваны 31 снежня 1943 года — **У. С.**), асобна — для «Известий», для франтавой газеты — павіншаваць байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі з Новым годам. Трэба таксама працаваць над перакладам гімна на беларускую мову. Акрамя таго даводзіцца пісаць рэцэнзію на дысертацыю прафесара Дабрыніна М. К. «Беларуская літаратура (старажытны перыяд)». Ён рыхтуе абарону на ступень доктара. Цяпер я чытаю гэтую вялікую, патрэбную нам работу... Чытаю з задавальненнем. Напісана проста, прыгожай мовай».

Амаль штодзённа ці праз дзень ездзіў у Маскву. Сустракаўся з пісьменнікамі А. Новікавым-Прыбоем, М. Лынькоўым, П. Глебкам, П. Броўкам, крытыкам В. Агіевічам, наведваў Саюз пісьменнікаў, рэдакцыі газет. Часта займаўся і гаспадарчымі справамі: капаў гарод, хадзіў на рынак, нарыхтоўваў дровы, чысціў сцежкі ад снегу і г. д. І, вядома, многа сіл аддаваў творчай рабоце. У пачатку 1944 года ён паведамляе С. Гарадзецкаму аб удакладненні першапачатковай задумы паэмы «Адплата»: «Рамкі яе (паэмы — **У. С.**) значна пашырыліся. Хочацца падоўжыць і ўзбагаціць і другую лінію. Зрабіў вывад, што спяшацца не варта... Заўтра збіраюся ў Маскву дамовіцца аб сустрэчы з камандзірам аднаго з партызанскіх атрадаў. Ён мае багаты матэрыял, і сам літаратурна апрацаваў яго. Як зрабіў ён гэта, убачу заўтра, а для мяне будзе карысць».

7 студзеня 1944 года ў гонар 25-годдзя БССР і за вялікія поспехі ў развіцці навукі Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў Якубу Коласу званне заслужанага дзеяча навукі рэспублікі. А крыху раней за заслугі ў развіцці партызанскага руху быў удастоены ордэна Чырвонага Сцяга.

З 1 лютага 1944 года Я. Колас пачынае весці дзённікавыя запісы. Кніга атрымала назву «Гаворыць Клязьма» (дзённік захоўваецца ў Літаратурным музеі паэта — **У. С.**). Дзень за днём у ім адлюстравана ўся шматгранная творчая і грамадская дзейнасць паэта да 18 лістапада 1944 года. З запісаў відаць, што Я. Колас прымаў удзел у рабоце пленума Камітэта па Дзяржаўных прэміях, праўлення СП СССР, VI сесіі Вярхоўнага Савета БССР, уваходзіў у склад Усесаюзнага камітэта па правядзенню 40-годдзя з дня смерці А. Чэхава...

У першай палавіне сакавіка 1944 года ездзіў у вызвалены Гомель на чарговую сесію Вярхоўнага Савета БССР. Пасля завяршэння яе работы наведаў былы нямецкі канцлагер у раёне мястэчка Азарычы Палескай (цяпер Гомельскай — **У. С.**) вобласці. У гэты лагер па загаду камандуючага 9-й нямецкай арміі Харпе з 9 па 15 сакавіка пад выглядам эвакуацыі было прывезена больш за 50 тысяч непрацаздольных савецкіх грамадзян, у тым ліку хворых на тыф, з мэтай распаўсюдзіць эпідэмію на часці Чырвонай Арміі і затрымаць іх наступленне. Кінутых у лагер не кармілі, прымушалі піць балотную ваду, забаранялі карыстацца агнём. Усё ўбачанае прымусіла Коласа напісаць нарыс «Лагер смерці». Ён быў апублікаваны ў «Известиях» 19 красавіка 1944 года і быў адным з першых нарысаў, якія сталі ля вытокаў беларускай дакументальна-мастацкай літаратуры пра вайну, пра беларускія Хатыні.

З Клязьмы паэт падтрымліваў пастаянную перапіску з многімі пісьменнікамі, паэтамі, крытыкамі. У пісьме да паэтэсы С. Сомавай, перакладчыцы яго твораў, 29—30 лістапада 1944 года ён паведамляў: «Я нават думаў зусім не вяртацца ў Клязьму, а ўладкавацца дзенебудзь у Маскве, у гасцініцы. Але цяпер гэта надзвычай цяжка. У Клязьме я адчуў сваю аседласць і глебу пад нагамі, і мне стала весялей, таму што ў Маскве даводзіцца быць увесь час на нагах і амаль увесь дзень хадзіць апранутым. Я зусім не гарадскі чалавек. Гарадскі шум, рух мяне вельмі стамляюць. Увесь час даводзіцца быць у нейкім напружаным стане. Нават некалі і падумаць, памарыць».

З снежня 1944 года Якуб Колас пакідае Клязьму і вяртаецца ў Мінск, які, як ён потым пісаў, «моцна разбураны, але твар горада застаўся». Потым яшчэ некалькі разоў бываў паэт у Пушкінскім раёне, калі прыязджаў у Маскву, адпачываў у санаторыях Падмаскоўя. На ўсё астатняе жыццё застаўся ў памяці вялікага паэта гэты куток Падмаскоўя, якому аддаў часцінку свайго сэрца. За зборнік вершаў «Голас зямлі» і цыкл вершаў ваенных год, многія з якіх напісаны ў Клязьме, паэт удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР 1946 года. Праца над паэмай «Рыбакова хата», радкі якой нараджаліся на падмаскоўнай зямлі, праз два гады таксама адзначана Дзяржаўнай прэміяй.

...Я пакідаю кветкі каля мемарыяльнай дошкі ў Клязьме. Помняць і берагуць людзі дарагія ім імёны.

**Уладзімір САЗАНОВІЧ.**

## ПОДЗВІГ, АПЕТЫ МАСТАЦТВАМ

Натхнёнай баладай аб подзвігу герояў абароны цытадэлі над Бугам у гады мінулай вайны паўстала перад наведвальнікамі выстаўка «Брэсцкая крэпасць у літаратуры і мастацтве», якая адкрылася ў адным з памяшканняў мемарыяла ў Брэсце. У экспазіцыі прадстаўлена больш за 400 кніг, альбомаў, твораў жывапісу і графікі, фотаздымкаў, тэатральных афіш, іншых матэрыялаў і дакументаў.

...Першай публікацыяй аб гераічнай абароне крэпасці стаў нарыс М. Талчонава «Год назад у Брэсце», які з'явіўся ў чэрвені 1942 года ў «Красной звезде». У хуткім часе пасля вайны ў зборніку «Выбранае» быў надрукаваны верш Максіма Танка «Балада аб Брэсце». Усе наступныя гады савецкая літаратура і мастацтва пастаянна звярталіся да тэмы подзвігу абаронцаў крэпасці. Толькі Брэсцкі абласны драматычны тэатр даў больш чым 900 спектакляў па п'есе К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць». У цяперашняй экспазіцыі — зборнік п'ес драматурга, здымкі сцэн са спектакля.

Песняром подзвігу абаронцаў цытадэлі па праву называюць пісьменніка Сяргея Смірнова. Доўгі час лічылася, што ўсе байцы гарнізона загінулі. Ён жа адшукаў воінаў, якія засталіся жывымі, расказаў аб іх. У музеі мемарыяла захоўваецца асабісты архіў пісьменніка, дакументы, сабраныя ім за гады літаратурнай працы.

«Калі гавораць аб мужнасці, успамінаюць Брэст» — гэтыя словы адкрываюць раздзел, прысвечаны творчасці К. Сіманава. Пісьменнік многа разоў звяртаўся да тэмы подзвігу абаронцаў крэпасці. У адной з вітрын — сцэнарый яго фільма «Бессмяротны гарнізон», іншыя творы з дароўнымі надпісамі.

На стэндах — тамы ўспамінаў «Гераічная абарона», «Буг у агні», кнігі ўдзельнікаў абароны цытадэлі П. Гаўрылава, С. Бабронка, Н. Іспалатава, А. Раманава, іншых ветэранаў.

Нямала складзена песень аб абаронцах цытадэлі. У раздзеле «Брэсцкая крэпасць у музыцы» расказваецца аб творчасці кампазітара К. Малчанава, чыя опера «Невядомы салдат» з поспехам ідзе ў шэрагу тэатраў краіны і за рубяжом. Тут жа партытура твора беларускага кампазітара Г. Вагнера «Героям Брэста».

Шырока прадстаўлена ў экспазіцыі творчасць мастакоў і скульптараў з Масквы, Ленінграда, Мінска, Брэста. Каля ста графічных і жывапісных работ, прысвечаных легендарнай абароне, у тым ліку пяцьдзесят партрэтаў абаронцаў крэпасці, стварыў брэсцкі мастак П. Дурчын.

**П. СУСІКАЎ.**

## *ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### З «МА[illegible]МІ ГАСТРОЛЯМІ»

*У Мінск з так званымі «малымі гастролямі» прыязджаў калектыў Ленінградскага тэатра музкамедыі. Аматары мастацтва ўба[illegible] спектакль па матывах апа[illegible]ння амерыканскага пісьменніка-фантаста Р. Шэклі «Ордэр на забойства», твор з актуальным палітычным, антываенным падтэкстам, а таксама тэатралізаванае шоу «Цяжка быць сяржантам» Д. Іванова і У. Трыфанава.*

### ЗНАЁМСТВА З КНІГАЙ

*У Слоніме прайшла прэм'ера кнігі «Краю мой — Нёман», выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Гэты зборнік прадстаўляе літаратурную Гродзеншчыну. Перад кнігалюбамі горада і мясцовага калгаса «Першае мая» выступілі літаратары Ю. Голуб, А. Іверс, В. Чэкін, Л. Цахун.*

### ТВОРЧАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ

*Ва ўкраінскім горадзе Ужгарадзе адбылася Усесаюзная творчая лабараторыя «Танцавальная культура народаў Украіны, Беларусі, Малдавіі».*

*З дакладамі «Сучасны стан і тэндэнцыі развіцця народнага харэаграфічнага мастацтва Беларусі», «Фальклор і самадзейнае танцавальнае мастацтва на матэрыяле Беларусі», «Беларуская інструментальная музыка і яе выкарыстанне ў самадзейнай танцавальнай творчасці» выступілі беларускія вучоныя М. Казенка, Ю. Чурко, А. Капілаў.*

### ЖЫЦЦЮ І ТВОРЧАСЦІ ЦЁТКІ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*У Літаратурным музеі Янкі Купалы экспануецца выстаўка «Жыццё і творчасць Цёткі», прысвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэння паэтэсы.*

*Шматлікія экспанаты раскрываюць постаць Цёткі — пісьменніцы-рэвалюцыянеркі, асветніцы, медыцынскага работніка. Шырока прадстаўлена яе літаратурная спадчына. У экспазіцыі выкарыстаны матэрыялы дзяржаўных архіваў Беларусі і Літвы. Вялікую дапамогу аказалі пісьменнікі С. Панізнік, В. Коўтун, Л. Арабей, урач з Нова-Вільні, вялікі прыхільнік беларускай кнігі В. Банайціс.*

*Выстаўку наведваюць школьнікі, настаўнікі, студэнты.*



**З малавядомай п'есай амерыканскага драматурга Т. Уільямса «Царства зямное» пазнаёміў сваіх гледачоў Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага. Пастаноўку спектакля ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра Валерый МАСЛЮК.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. Лот — А. ЖДАНОВІЧ, Мэртл — Л. БЫЛІНСКАЯ, Кураня — А. ЯКАЎЛЕЎ.**

**Фота У. ШУБЫ**

*ЖЫВУЦЬ У МАГІЛЁВЕ МАСТАКІ ТАБОЛІЧЫ*

# АД ЧЫСТЫХ КРЫНІЦ



Ужо першыя самастойныя жывапісныя работы Марыі і Рыгора Таболічаў атрымалі агульнае прызнанне, і ў канцы мінулага года яны былі прыняты ў Саюз мастакоў БССР. Як гаворыцца, і любая дарога разам здаецца карацейшай, і любая справа хутчэй робіцца. Але цікава, як жа сышліся іх жыццёвыя сцяжынкі ў адну дарогу, па якой яны крочаць разам?

Заўсёды будзе памятаць Рыгор старыя разгалістыя дубы ля бацькоўскай хаты ў вёсцы Паласцэвічы ў Жыткавіцкім раёне, што на Гомельшчыне. Хлапчуком любіў сядзець на іх магутных каранях, прытуліўшыся да шурпатага ствала, і прыслухоўвацца, як шэпчацца з ветрам лістота. Яму часта здавалася, што калі доўга ўзірацца ў далячынь і чуйна лавіць вухам усе гукі, дык у цішыні можна адчуць нягучную музыку, якая ідзе ад зямлі. І яе меладычныя пералівы абуджалі ў сэрцы нешта светлае, чым хацелася падзяліцца, выказацца. Калі пачаў хадзіць у школу, дык на ўроках малявання адкрыў для сябе, што прыгажосць наваколля можна перадаваць пры дапамозе алоўка і фарбаў. Тады і вырашыў стаць мастаком.

Вялікай радасцю было для Рыгора працаваць разам з сябрамі ў інстытуцкай майстэрні. Хіба што толькі парушала яго душэўную гармонію сваім бойкім характарам аднакурсніца Марыя Мельнікава.

Марыя нарадзілася на Магілёўшчыне, у вёсцы Тартак, што ў Быхаўскім раёне. Як сябе памятае, любіла, калі ў шыбы акон барабанілі манатонна кроплі бясконцага дажджу. Тады можна было забіцца ў куток і каляровымі алоўкамі маляваць у школьным сшытку ўсялякія фантазіі. Усім хатнім былі вельмі даспадобы жывыя і яркія яе малюнкі. Бацька Марыі, калгасны шафёр, пачуў аднойчы ў дарозе ад людзей, што ёсць у Мінску школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву. Туды і павёз вучыцца Марыю, калі яна скончыла чатыры класы пачатковай школы.

У 1975 годзе Марыя паспяхова заканчвае школу і не менш паспяхова здае экзамены на аддзяленне жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Усё было б выдатна ў яе студэнцкім жыцці, каб не прысутнасць занадта ўпартага, як ёй здавалася, аднакурсніка Рыгора Таболіча, з якім немагчыма было не ўступіць у спрэчку. Але якраз у спрэчках і высветлілася, што ў іх вельмі шмат агульнага, што аб'ядноўвае, а не адштурхоўвае.

Аднакурснікі Рыгора і Марыі былі вельмі здзіўлены, калі даведаліся, што такія розныя па характару людзі вырашылі стварыць сям'ю.

А яны, маладыя, шчаслівыя і поўныя надзей, рушылі на пошукі тэмы для сваіх дыпломных работ у родную вёску Рыгора. З часам тэма роднага краю станавілася для [illegible]стака ўсё ясней і выразней. [illegible] так непераадольна цягнула яго з мінскіх вуліц на Палессе, каб маляваць вобразы непрыкметнага вясковага «мікрасвету» — адбітак неба ў студні, пакрыты сеткай глыбокіх «зморшчын» зруб хаты, буслянку на старым дубе... Так з'явілася серыя карцін, прысвечаных Палессю: «Калодзеж», «Стары дуб», «Гаспадар» і іншыя.

У вёсцы знайшла сваю тэму і Марыя. Раптам, мімаходзь убачыла яна, як у адной з хат жанчыны рыхтуюцца да вяселля, увіхаюцца ля печы, прыбіраюць святочны стол. І тое, што доўга не атрымлівалася ў майстэрні, не перадавала характар вясковага свята, раптам знайшлося, сабралася ў цэльную рытмічную кампазіцыю, падказанае жывымі ўражаннямі ад убачанага, атмасферай, рэаліямі сучаснай беларускай вёскі.

Выдатна скончыўшы інстытут, Марыя і Рыгор Таболічы едуць у 1981 годзе ў Магілёў, пачынаюць працаваць там у мастацка-вытворчых майстэрнях Мастацкага фонду БССР, атрымліваюць кватэру ў новым мікраёне, хутка і сям'я павялічваецца: з'яўляюцца сын Алесь і дачка Наташа. Але за новымі хатнімі абавязкамі мастакі не забываюцца і пра творчасць. Асабліва шмат працуе Марыя.

У яе дамінуюць эмацыянальныя адносіны да работы, калі жыццёвыя ўражанні шчыра і свежа кладуцца на палатно, і многае выкрышталізоўваецца і знаходзіць сваю форму спантанна, у творчым парыве. У яе работах «У раддоме», «Ліхалецце», «Вёсны маёй Радзімы» ў цэнтры ўвагі — вобраз жанчыны-маці, бабулькі, шчырай і спагадлівай. Яна ўвасабляе ў сваіх гераінях тыповы народны характар. Вельмі глыбока адчула мастачка пакуты і боль беларускіх мацярок апошняй вайны, калі працавала над карцінай «Ліхалецце». Калыхала сваю дачушку і пісала шчымлівыя вобразы дзяцей, пазбаўленых дзяцінства.

За працай Марыі ўважліва сочыць Рыгор. Ён не хоча, каб яна ахвяравала сваёй творчасцю дзеля хатніх спраў. Таму прыходзіцца размяркоўваць штодзённыя абавязкі так, каб абодвум заставаўся час для працы. Ці лёгка так жыць? «Па-іншаму немагчыма, — гаворыць ра[illegible]на Рыгор, — але ў гэтым [illegible] мяне і ёсць адчуванне паўнаты жыцця». «Ідэальных умоў не бывае. Часта прыходзіцца працаваць урыўкамі. Але для мяне паняцці сям'я [illegible] творчасць сумяшчальны[illegible]лі побач Рыгор»,— смяецца Марыя.

Вобраз беларускай жанчыны для Рыгора вельмі шматзначны. Гэта Ганна Мякота, маці Максіма Багдановіча, у карціне «Маці паэта», гэта і звычайная вясковая бабуля з канкрэтнымі партрэтнымі і адначасова абагуленымі рысамі ў дыптыху «Вогненная вёска».

Першая палова 80-х гадоў аказалася для маладых мастакоў Таболічаў удалым творчым «стартам» у беларускім жывапісе. Падымаючы ў розных аспектах, па-сутнасці, сугучную тэматыку, мастакі пры ўсёй сваёй духоўнай еднасці застаюцца непадобнымі. У Марыі сонечнае бачанне свету і гарачы мастакоўскі тэмперамент. Яе колеры як гукі і рытмы зухаватых народных кадрыляў, якія і сёння выконваюцца на Магілёўшчыне на вясковых святах і зрываюць з месца нават і немаладых людзей.

Мова Рыгоравых работ больш стрыманая, задуменная.

«Трэба фундаментальна выношваць думку, ачышчаць сродкі выразнасці ад усяго, што неістотна і выпадкова. Тады можна сказаць многае», — гаворыць Рыгор пра сваё разуменне творчых задач. «Кожная работа як прыступкі, па якіх хочацца ўздымацца ўсё вышэй і вышэй. А ў творчасці гэта куды цяжэй, чым проста падымацца па доўгай крутой лесвіцы. Але, адчуўшы аднойчы смак творчасці, ужо немагчыма спыніцца»,—энергічна дадае Марыя.

Сапраўды, спыніцца ўжо немагчыма. Падрастаюць дзеці, гледзячы на бацькоў і самі малююць. Так жыве і працуе сям'я мастакоў Таболічаў, у творчасці якіх злучаны энергія і роздум, чысціня вытокаў і вострае адчуванне сённяшняга дня.

**Яўген ШУНЕЙКА.**





**НА ЗДЫМКАХ: Марыя і Рыгор ТАБОЛІЧЫ (справа) з калегамі — маладымі магілёўскімі мастакамі Г. ТУРОЎСКАЙ і Ю. НЕСЦЕРУКОМ; М. ТАБОЛІЧ. «Вёсны маёй Радзімы»; Р. ТАБОЛІЧ. «Стары дуб».**

**Фота аўтара.**

---

*НА МОВАХ СВЕТУ*

## РУМЫНІЯ

Бухарэсцкае выдавецтва «Універс» выпусціла на румынскай мове аповесць Васіля Быкава «Воўчая зграя». Перакладчык твора Віліў Энеску сказаў мне пра творчасць беларускага празаіка:

— У вас і ў нас багатая літаратура пра вайну. Гэта тэма невычэрпная, але ад кожнага мастака яна патрабуе новага падыходу да матэрыялу, арыгінальнага яе мастацкага вырашэння. Тэматыка і праблематыка Быкава выклікана да жыцця сучасным момантам і сучаснай цікавасцю. Заўсёды ўяўляеш, што гэта твой сучаснік, які жыве сёння, расказвае пра вайну, і ў той жа час адчуваеш, што ты сам знаходзішся на гэтай вайне. Другі пласт, другая асаблівасць яго мастацкай свядомасці ў тым, што яго аўтарская пазіцыя пераплятаецца з філасофіяй чалавека ад зямлі, селяніна. Мастацкая манера Быкава шматкампанентная: яна не цураецца лірызму, адчуваецца яўнае дыханне эпічнага пафасу, у ёй ёсць спавядальны момант, элементы прыгодніцкай літаратуры. Гэта сапраўды любімы пісьменнік у Румыніі.

## ЮГАСЛАВІЯ

Як паведамлялася ўжо, летась, у кастрычніку, адбыліся Дні культуры Беларускай ССР у Славеніі. Да гэтага свята дзвюх культур славенскія сябры выпусцілі малафарматную кніжку вершаў народнага паэта нашай рэспублікі Янкі Купалы на чатырох мовах: беларускай, рускай, англійскай, славенскай. У выданне ўключаны дзевятнаццаць вершаў Янкі Купалы.

Кніжка выпушчана ў Любляне выдавецтвам «Цанкар'ева заложба».

## МЕКСІКА

У 1984 годзе Мінск наведала дэлегацыя Інстытута дружбы і культурнага абмену «Мексіка—СССР», у складзе якой былі паэт Актаўё Навара, лаўрэат нацыянальнай прэміі журналістыкі Рыкарда Тамайё Картэс і мастак Артура Гарсія Бустас.

Нядаўна гэты інстытут выдаў разам з Агенцтвам друку Навіны кніжку «Ад Сокала (цэнтральная плошча сталіцы Мексікі) да Чырвонай плошчы», аўтар якой Рыкарда Тамайё Картэс дзеліцца ўражаннямі аб падарожжы па Савецкім Саюзе. Мексіканскі журналіст цёпла, пранікнёна ўспамінае пра сваё знаёмства з горадам-героем Мінскам, паездку да мемарыяльнага комплексу «Хатынь». Кніга напісана ў форме пісьма да сябра. Вось якое ўражанне засталося ў аўтара ад сустрэч з людзьмі: «Як бачыш, я і тут і там кажу пра ежу і напіткі ў час нашых сустрэч, але гэта таму, што яны былі хлебам і соллю дружбы, з якой нас так шчыра і па-сапраўднаму радасна прымалі з-за таго, што мы—мексіканцы і з прычыны 60-годдзя ўстанаўлення дружалюбных адносін паміж Мексікай і СССР. І дадам адно важнае меркаванне: хлеб і соль у нас былі ўвесь час, яго ў савецкіх людзей цяпер удосталь. І яшчэ хачу табе дадаць пра тое, што ў іх гэта ідзе ад сэрца—калі б яго не хапала, то яны адарвалі б ад сябе і падзяліліся б з намі, мексіканцамі».

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**




## НЕЎМІРУЧАЯ ЛІРА ПАЭТА

Яркую і шматгранную літаратурную спадчыну: вершы і прозу, пераклады і крытычныя артыкулы, навуковыя даследаванні—пакінуў нашчадкам Максім Багдановіч, паэт-грамадзянін, паэт-гуманіст, паэт-інтэрнацыяналіст. Урачысты вечар, прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння вялікага майстра слова, адбыўся 16 снежня мінулага года ў мінскім Доме літаратара. Тут сабраліся прадстаўнікі творчых саюзаў, прыхільнікі таленту паэта.

Уступным словам вечар адкрыў народны паэт Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі Максім Танк. Аб жыццёвым шляху Багдановіча, аб значэнні яго творчасці расказаў доктар філалагічных навук М. Грынчык.

Паэты П. Макаль, Р. Барадулін, кампазітар Ю. Семяняка і іншыя прамоўцы, якія выступілі на вечары, адзначалі, што гучная ліра М. Багдановіча па-ранейшаму застаецца крыніцай натхнення, прыкладам беззапаветнага служэння Айчыне і народу.

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# БЕЛАВЕЖА

Сын палясоўшчыка Мікола Гусоўскі яшчэ чатыры стагоддзі таму назад пісаў:

**«Музыка нашых лясоў мілагучнасцю строгай
Вуху і сэрцу мілей за літаўры і ліры...»**

Яно так. Дзіва што калісьці пад шатамі гэтых дрэў вясну і лета правёў вялікі рускі пейзажыст Шышкін і зрабіў некалькі эцюдаў з натуры. Дзіва што пазней у пушчы ствараў вядомыя літаграфіі Каменскі. Дзіва што ўжо ў нашы дні працаваў тут Беляніцкі і даў свету серыю жывапісных карцін «Белавежская пушча».

Яна, Белавежа, у кожнага пакідае след, свой, адметны, непаўторны. Едуць сюды літаральна з усяго свету. А потым жывуць ёю доўга.

А што ўяўляла сабою Белавежа некалі? Гісторыкі сведчаць: пра гэты кут зямлі нашай ведалі ў старажытныя часы. Яшчэ Герадот пісаў аб Нурскай зямлі і неўрах, якія сяліліся па рэках Нараву, Лясной, Нараўцы. Тады пушча займала значна большую тэрыторыю. Багатым быў яе жывёльны свет.

Але пайшло знішчэнне звера.

Апошняя турыца загінула ў 1627 годзе.

Еўрапейскі высакародны алень поўнасцю знішчаны ў пушчы ў другой палове XVIII стагоддзя. Засталіся таксама толькі назвы урочышчаў: Аленевая гара, Аленевы бор...

На пачатку XIX стагоддзя ў пушчы зніклі бабры.

У 1878 годзе былі забіты апошнія тры мядзведзі.

Апошні зубр, які жыў на волі, быў забіты ў Белавежы браканьерам у 1919 годзе.

Тут знішчалі звера хто хацеў, калі хацеў і колькі хацеў. Дазволю сабе прывесці яшчэ такі прыклад. За два дні ў кастрычніку 1860 года цар Аляксандр II і яго світа забілі 28 зуброў, 23 вепры, 36 казуль і шмат іншых звяроў. Цар Мікалай II у час палявання з 18 па 30 жніўня 1900 года таксама вызначыўся: адных толькі зуброў было забіта 40.

...Шафёр Юрась, малады яшчэ хлопец, спраўна вёў машыну. Насустрач уздоўж прасекі беглі высачэзныя дрэвы. Там, уверсе, кроны іх перапляталіся, і здавалася, што едзем праз незвычайны тунель. Трапляліся і меднастволыя сосны, і ельнік, і асіннік, і алешнік. З'яўляліся і прагалы, так-сяк устаўленыя, нібы для акрасы, маладымі елачкамі ды бярозкамі. А потым зноў выскокваў насустрач карабельны бор.

Нарэшце, Юрась тармазнуў. Леваруч ляжаў п[illegible]маны, пакручаны сасоннік — след нядаўняга буралому, праваруч—сцяною стаяў магутны дрымучы лес. Пад яго шатамі было як шарай гадзінай. Мы выйшлі з машыны.

Вось яна, сапраўдная Белавежа!

Праз колькі часу мы стаялі ля незвычайнага д[illegible] і дзівіліся. Вышыня ж якая! Метраў трыццаць! Дыям[illegible]—два метры. Узрост—шэсцьсот пяцьдзесят гадоў!

Два гады назад сабралі пад ім пуды са два жалудоў. Буйных. Адзін у адзін. Пасеялі. Атрымалася за чатырыста адборных саджанцаў. Ужо так падняліся—вока радуецца!..

Слаўнай дуброва будзе! З дынастыі волатаў.

Зараз тэрыторыя Белавежскай пушчы (савецкая частка) складае амаль 88 тысяч гектараў. З поўначы на поўдзень яна цягнецца на 70, а з усходу на захад—ад 10 да 30 кіламетраў. Тут можна ўбачыць 900 відаў раслін, 285—млекакормячых і птушак.

Неўзабаве пад'ехалі да зубрынай паляны. На ёй то там, то тут бачны былі зубры. Адны ляжалі і здалёк здаваліся кучамі торфу на белым полі. Другія, сабраўшыся па двартры, стаялі, набычыўшыся, нібы штосьці абдумвалі. Гэта зубрыцы. Паблізу іх круціліся цяляты—ад пярэзімкаў да зусім яшчэ малых. А там, далей, пад векавым дрэвам, застыў чорнай камлыгай стары зубр. Няўжо адзінец?

Калі зубр састарыцца, калі карагодзіць пачнуць маладзейшыя, і ён, умудроны жыццём, раптам адчуе, што страціў галоўнае, моўчкі пакідае нават тое месца, дзе нарадзіўся, жыў, і пойдзе прэч—ад сваіго і сваіх. І ходзіць-блудзіць па пушчанскіх лясах ці доўга стаіць дзе-небудзь пад старой ялінай, як скала, як цень. І днём, і ноччу, і тыдзень, і месяц, і гады—адзін. Яго і завуць адзінцом.

Колькі тае язды на машыне, і мы ўжо на рацэ Нараў. Свой выток яна бярэ, як і Ясельда, на паўночным усходзе пушчы, у заказніку «Дзікае», і перасякае ўвесь лясны масіў. Ясельда, наадварот, імкне направа, з пушчы, у кірунку Бярозы і Целяхан. Там, на «Дзікім»—водападзел.

На левым беразе ракі Нараў стаяць вёсачкі Нямержа, Ціхаволя—спраўныя, чысценькія. На правым—Рудня, Дабраволя. А далей ад іх—Яцвеск, Ятаўцы. Тутэйшыя людзі лічаць, што рака ў тым месцы некалі падзяляла ўладанні палешукоў і яцвяг.

Нараў яшчэ не стала. Імклівая гнала сваю ваду між спадзістых берагоў. Да самай ракі падступалі то лес, то лугавіна, то зарасні лазавіння, укрываючы яе ад сонца.

А насустрач беглі іншыя пушчанскія вёсачкі—вялікія і малыя, пералескі, белыя ад снегу палеткі, лугавіны.

Яраслаў ПАРХУТА.

ЗІМОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ







Пятро ГЛЕБКА.

А лес стаіць маўклівы ціха,
Не зварухне свайго галля...
Зіма, зіма... Бы ў цвеце ліпа,
У белым снезе ўся зямля.

Фота Я. КАЗЮЛІ і Ю. ЗАХАРАВА.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# НАВАСВЕРЖАНСКІ ФАРФОР

Здаўна завуць фарфорняй жыхары Новага Свержаня Стаўбцоўскага раёна невялікі ўчастак лугу, што раскінуўся на правым беразе Нёмана насупраць вёскі. Ёсць тут і брод праз раку — фарфоравы. Старажылы кажуць, што калісьці на гэтым месцы было невялікае саматужнае прадпрыемства князёў Радзівілаў, «фарфорня» — менавіта так завецца яна ў дакументах XVIII стагоддзя. Тут вырабляўся ў даволі значнай колькасці фарфоравы посуд для княжацкага стала. Але калі і чаму якраз у Новым Свержані ўзнікла такое прадпрыемства? Каб адказаць на гэта і некаторыя іншыя пытанні, трэба звярнуцца да гісторыі.

XVIII стагоддзе ўнесла вялікія зрухі ў эканамічнае і культурнае жыццё тагачаснай Беларусі, зрэшты, як і ўсёй Рэчы Паспалітай, у склад якой яна ўваходзіла. Паступова ліквідаваліся вялізныя разбурэнні, нанесеныя працяглымі і спусташальнымі войнамі. У нетрах феадалізму пачалі зараджацца новыя, капіталістычныя адносіны: адчыняліся невялікія мануфактуры з наёмнай рабочай сілай, пашыраўся гандаль. Значна ўзмацніліся сувязі з Расіяй, з краінамі Заходняй Еўропы, адкуль на Беларусь стала пранікаць новая, буржуазная культура.

Мясцовая шляхта, бываючы за межамі Рэчы Паспалітай, сутыкалася з іншай модай, іншымі звычкамі, што, на яе думку, было больш сучасным, больш прэстыжным. А шляхецкі гонар не дазваляў адставаць ад сваіх замежных канкурэнтаў. Гэта стала адной з прычын таго, што паступова іх культура, звычаі і мода пачалі ўкараняцца і на Беларусі.

Спачатку шляхта задавальняла свае запатрабаванні, купляючы замежныя тавары. Але цэны на іх узрасталі разам з попытам. Тады дарагія тканіны, каштоўны посуд, розныя ўпрыгажэнні аматары франтаўства сталі вырабляць на ўласных мануфактурах. Звычайна на такія прадпрыемствы запрашаліся замежныя майстры для арганізацыі і наладжвання справы, а цяжкую фізічную працу выконвалі прыгонныя сяляне. Так, напрыклад, вядома, што на Навасвержанскай фарфорні працаваў з 1733 па 1743 год мастак Ян Фрэдэрык Дыц, які пахадзіў з Саксоніі.

Але з цягам часу творчая ініцыятыва перайшла да найбольш таленавітых майстроў-сялян, якія ўмела пераймалі ўсе тонкасці справы ў іншаземцаў. Яны стварылі сапраўдныя шэдэўры мастацтва, якія карысталіся надзвычайным попытам не толькі ў Беларусі, але і ў каралеўскіх дварах Еўропы. Вось у такіх умовах у другой чвэрці XVIII стагоддзя і ўзнікла на багатым на белую гліну беразе Нёмана невялікая фарфоравая мануф[illegible]ра ў Новым Свержані.

[illegible]энтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР ёсць апісанне Навасвержанскай фарфорні, якое было зроблена ў 1765 годзе. Як жа яна выглядала? Увесь вытворчы комплекс б[illegible]бнесены парканам з дыляў (тоўстых колатых дошак). У д[illegible]ор з вуліцы праводзілі вароты. Злева ад іх стаяў вялікі бу[illegible]нак, зрублены з бярвенняў і брусоў і накрыты дахам з д[illegible]ы. У ім тры большыя і два меншыя памяшканні, згрупава[illegible] вакол цэнтральных сенцаў. Гэтыя пакоі з'яўляліся, уласна кажучы, вытворчымі майстэрнямі, дзе фармаваліся разнастайныя фаянсавыя вырабы. Будынак меў 7 дзвярэй і 17 акон. Насупраць яго, справа ад варот, знаходзіўся другі будынак, узведзены з бярвенняў пад драніцавым дахам. Ён уключаў 2 вялікія памяшканні, злучаныя з сенцамі, у кожным з іх былі печы. Адно з памяшканняў і сенцы прызначаліся толькі для абпальвання фаянсавых вырабаў, у другім гатавалі таксама і паліву, якой пакрывалі вырабы звонку. Акрамя адзначаных будынкаў існавала таксама і «кафельня» — доўгае драўлянае збудаванне з двума памяшканнямі праз сенцы, дзе рабілі кафлю для аздаблення грубак, керамічны посуд і іншыя мастацкія вырабы. Абпальвалі іх у вялікай мураванай печы. На тэрыторыі фарфорні стаялі таксама адрына, дзе захоўвалася сыравіна для вытворчасці кафлі і фаянсу, і скарбец — пабудова з бярвенняў пад гонтавым дахам са слупавай галерэйкай перад уваходам. Унутры скарбца ўздоўж сцен стаялі шафы і лавы для гатовых вырабаў, цэнтр памяшкання займаў вялікі доўгі стол.

На фарфорні выраблялі не толькі посуд для радзівілаўскага стала. Інтэр'ер Нясвіжскага замка ўпрыгожвалі фаянсавыя падсвечнікі, плíткі белага і зялёнага колеру, аздобленыя рэльефамі ў выглядзе зорак і квадрацікаў, розныя дэкаратыўныя шкатулкі і куфэркі работы навасвержанскіх майстроў. Вядома таксама, што ў нясвіжскай замкавай бібліятэцы стаялі скульптуры старажытных філосафаў, а капліца ў Альбе, так званай радзівілаўскай рэзідэнцыі пад Нясвіжам, была аздоблена шасцю фаянсавымі алтарамі работы тых жа майстроў.

Шкада толькі, што да нас практычна не дайшло ніводнага вырабу з радзівілаўскай фарфоравай мануфактуры ў Новым Свержані. Вучоныя мяркуюць, што многія з іх былі вывезены заваёўнікамі, якія прыходзілі на беларускую зямлю, і што зараз яны знаходзяцца ў прыватных калекцыях заможных людзей у краінах Захаду. Большая ж частка навасвержанскіх шэдэўраў мастацтва, відаць, загінула ў віхуры шматлікіх войнаў, што лютавалі ў нашым краі. Не захаваліся і дакументы, якія б маглі паведаміць нам сёння імёны таленавітых майстроў.

Сяргей ГАЛОЎКА.

## ФАРБЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Заслужаны дзеяч мастацтваў Д. Алейнік вядомы як пейзажыст. З маленства ўвабраў ён у душу хараство краявідаў Міншчыны, дзе нарадзіўся, назаўсёды палюбіў Гомельшчыну, з якой звязаў свой лёс. А яшчэ любіць шмат ездзіць па краіне. Пабываў на Поўначы, захапляўся першародный прыгажосцю Карэліі. Аб усім гэтым расказвае мастак у сваіх шматлікіх творах, лепшыя з якіх дэманстраваліся неаднойчы на ўсесаюзных, рэспубліканскіх і абласных выстаўках.

Шлях, пройдзены творцам, прасочваецца ў альбоме-нарысе «Дзмітрый Алейнік», які толькі што выйшаў у выдавецтве «Беларусь». Аўтар тэксту Вольга Сінякевіч паэтапна нагадвае найбольш значныя перыяды ў біяграфіі Д. Алейніка, паказвае, як паступова сталеў, набываў непаўторнасць яго талент.

У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстана 51 рэпрадукцыя твораў Д. Алейніка (каляровыя і чорна-белыя). Сярод іх такія работы, як «Пара сенакосная», «Ля дарогі», «Зіма», «Зарэчча», «Асенніх далячынь», «Восень на Мазыршчыне» і іншыя, што сведчаць аб адметнасці почырку мастака.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 2007